

## Бізнес-клас

### СУЧАСНЫ ОФІС І БАНК

Міжнародны салон пад такой назвай прайшоў у Рэспубліканскім выставачным цэнтры.

Айчынныя і замежныя прадпрыемствы прадстаўлялі на ім узоры інфармацыйных тэхналогій, камп'ютэрнай і вылічальнай тэхнікі, сродкаў сувязі і тэлекамунікацый, аховы і сігналізацыі. Асобае месца ў экспазіцыі было адведзена спецыяльным сродкам абсталявання банкаў і офісаў, а таксама дэманстрацыі сучаснай мэблі.

Адначасова праводзіліся семінары па перспектывах аўтаматызацыі, банкаўскіх плацяжоў, па эфектыўнасці рэкламы і сучасных камп'ютэрных сетках.

### ТУРБІЗНЕС ПРАЦВІТАЕ

Як паведамілі карэспандэнту "ЧЗ" у акцыянерным таварыстве "Белінтурыст", з 1 студзеня па 17 жніўня Беларусь па лініі "Белінтурыста" наведала 6400 замежных турыстаў, а нашых суайчыннікаў за 6 месяцаў бягучага года выехала 1538 чалавек, пераважна ў Балгарыю, Іспанію і на Кіпр.

Гэта даныя толькі адной турфірмы. Па Беларусі такіх фірм налічваецца каля 400.

### ПА ІЗРАІЛЬСКАЙ ПРАГРАМЕ

Група беларускіх аграрнікаў накіравалася ў Ізраіль на пяцітыднёвыя курсы, якія знаёмяць з развіццём сельскай гаспадаркі гэтай краіны. Такую магчымасць яны атрымалі дзякуючы ізраільскай праграме міжнароднага супрацоўніцтва "МАШАВ", сутнасць якой у тым, што спецыялістам з розных краін прадастаўляецца магчымасць вывучыць вопыт Ізраіля ў самых розных галінах вытворчасці і навукі, пераважна тых, у якіх дасягнуты поспехі, прызнаныя ва ўсім свеце.

На рускай мове "МАШАВ" у першую чаргу арганізуе заняткі, прысвечаныя сельскагаспадарчай тэматыцы: агародніцтву, жывёлагадоўлі, аграметэралогіі...

Разгортванне "МАШАВ" на Беларусі стала адным з накірункаў дзейнасці ізраільскага пасольства ў рэспубліцы адразу ж пасля пачатку яго работы ў Мінску.

### НОВАЯ ПАДАТКОВАЯ СІСТЭМА

Плануецца, што з 1 студзеня 1995 года ў Расіі пачне дзейнічаць новая падатковая сістэма. Да верасня ўрад Расійскай Федэрацыі завершыць распрацоўку пакета адпаведных мер і падрыхтуе ўсе дакументы па змяненню падатковага заканадаўства. Пра гэта паведаміў прэм'ер-міністр Віктар Чарнамырдзін.

Новая падатковая сістэма мяркуе павышэнне "збіраемасці" падаткаў, адначасовае зніжэнне падатковага цяжару ў цэлым, перанос цэнтру цяжару падаткаабкладання з прадпрыемстваў на фізічныя асобы.

**Святлана КУЛІКОВА.**

### СУСВЕТНЫ БАНК НА УКРАІНЕ

Прэзідэнт Украіны Леанід Кучма сустрэўся з дырэктарам Еўрапейскага аддзялення Сусветнага банка Бэзілам Кавальскім і прадстаўніком Сусветнага банка на Украіне Даніэлем Каўфманам. Станоўчую ацэнку з абодвух бакоў атрымала сумесная работа нашых эканамічных структур з міжнароднымі фінансавымі органамі над праграмай рэфармавання ўкраінскай эканомікі. Работа гэта ўжо завяршаецца, а праграма павінна стаць асновай рэальнага супрацоўніцтва Міжнароднага валютнага фонду і Сусветнага банка з нашай дзяржавай. Як было адзначана на сустрэчы, да канца гэтага года павінен быць завершаны кансультацыйны працэс, каб Украіна, нарэшце, змагла атрымаць канкрэтную дапамогу ад міжнародных фінансавых колаў.

**БЕЛІНФАРМ.**

НА АТРЫМАННЕ ДЗЯРЖАЎНАЙ ПРЭМІІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Сакрэт аднаго адкрыцця

□ **Вольга ШАЎКО, "ЧЗ"**

Гэты дзевяціпавярховы клінічны гмах у Мінску часта апошняя надзея для замучанага хворасцямі чалавека. За высокімі сценамі будынка смерць і боль не раз адступалі перад унікальнымі здольнасцямі, фантастычнай прафесійнай адоранасцю людзей, даўшых аднойчы клятву Гіпакрата. Слава і прызнанне таленту беларускіх медыкаў даўно ўжо бясспрэчныя на прасторах былога СССР і нават далёкага замежжа. А сёлета Беларускаму навукова-даследчаму інстытуту неўралогіі, неўрахірургіі і фізіятэрапіі спаўняецца 70 гадоў. Гэты час быў напоўнены імклівымі творчымі ўзлётамі для медыцынскага навуковага калектыву. І на працягу 15 гадоў інстытут з'яўляўся ў краіне галаўной установай па вывучэнню праблем захворванняў перыферычнай нервовай сістэмы. Лідэр у прафілактыцы і лячэнні хвароб свайго профілю, ён не раз займаў першыя месцы сярод роднасных НДІ, узнагароджваўся сцягамі, урадавымі граматамі, прэміямі. У рэспубліцы цяжка знайсці іншую навуковую медыцынскую ўстанову, дзе б працавала 6—7 дактароў навук адначасова. А галоўнае — іх тэарэтычныя працы маюць прынцыпова новае практычнае прымяненне ў медыцыне. Сёлетні юбілейны год для навукова-даследчага Інстытута неўралогіі, нейрахірургіі і фізіятэрапіі таксама плённы. Калектыў прафесіяналаў вылучаны на атрыманне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь за цыкл работ "Патагенез, клініка і дыягностыка неўралагічных праяўленняў астэахандрозу пазваночніка".

Іх шэсць, суіскальнікаў высокай узнагароды дзяржавы. Кожны — асоба ў навуцы, высакакласны спецыяліст у практыцы, шчодры на свае веды і майстэрства для калег.

Ігнат Пятровіч Антонаў — дырэктар інстытута, заслужаны дзеяч навукі, член-карэспандэнт Расійскай акадэміі медыцынскіх навук, акадэмік Акадэміі навук Беларусі, доктар медыцынскіх навук, прафесар, Народны ўрач Рэспублікі Беларусь, ганаровы грамадзянін горада Мінска. За кожным з гэтых тытулаў — карпатлівая праца, незвычайныя здольнасці, навуковы розум і бескарыслівая адданасць справе. Ігнат Пятровіч па праву стаіць на чале аўтарскага калектыву суіскальнікаў. Менавіта ён на працягу 15 гадоў кіраваў работай над аспектамі праблемы, вылучанай на дзяржаўную прэмію. Яшчэ ў 1957 годзе напісаў метадычную рэкамендацыю па ранняй дыягностыцы захворвання. Пад кіраўніцтвам Ігната Пятровіча 4 чалавекі з аўтарскага калектыву абаранілі доктарскія дысертацыі, адзін — кандыдацкую.

Што новага прыўнеслі ў медыцынскую навуку і практыку сваёй работай гэтыя вучоныя-медыкі? Гаворачы навуковай мовай, яны: "У выніку клініка-эксперыментальных, імуналагічных, біяхімічных, гарманальных, марфалагічных, гістахімічных, генетычных, электрафізіялагічных і рэнтгеналагічных даследаванняў упершыню распрацавалі інтэгральную канцэпцыю патагенезу і санагенезу астэахандрозу пазваночніка і ўзнікаючых пры ім неўралагічных парушэнняў, а таксама іх рэцыдываў і рэмісій з пазіцый парушэння розных функцыянальных сістэм — цэласнага арганізма". Бясспрэчна, гэткая складаная навуковая фармулёўка недасведчанаму чалавеку амаль нічога не скажа па сутнасці. А, між іншым, праца вучоных мае важнае значэнне для тых, хто пакутуе на дыскагенныя радыкуліты, астэахандрозы, розныя захворванні дробных суставаў пазваночніка. У апошні час гэтыя хваробы сталі праблемай стагоддзя. Ад боляў у паясніцы і спіне церпіць амаль палова насельніцтва планеты. А калі ўзяць узрост 50—60 гадоў, дык і ўсе 80 працэнтаў. Хвароба развіваецца часцей за ўсё так: дзесьці пасля 25 гадоў чалавек адчувае боль у пазванках, які да 40 гадоў змяншаецца, а, між тым, астэахандроз працягвае развівацца. Таму вельмі важна паставіць ранні дыягназ, своечасова аказаць дапамогу, накіраваць сілы на прафілактыку захворвання. Дарэчы, яшчэ не так даўно дыягназ "дыскагенны радыкуліт" укладваў хворага ў ложак на 2—3 тыдні. Цяпер жа, дзякуючы методыкам лячэння, выпрацаваным тытулаванымі медыкамі з беларускага навукова-даследчага інстытута, пацыент ходзіць ужо назаўтра.

Работа аўтарскага калектыву суіскальнікаў Дзяржаўнай прэміі накіравана і на тое, каб высветліць, ад чаго захворванне з'явілася, механізм яго развіцця. А ў канчатковым выніку практычнае прымяненне навуковых даследаванняў у ахове здароўя дасць магчымасць знізіць часовую непрацаздольнасць тых, хто пакутуе на астэахандроз пазваночніка. А гэта важна, калі ўлічыць, што клінічныя праявы яго прыходзяцца на самы працаздольны ўзрост. Значыць, цыкл работ, прапануемы навукоўцамі, мае не толькі навукова-практычнае, але і сацыяльна-эканамічнае значэнне.

Акрамя таго, праца аўтарскага калектыву суіскальнікаў прапануе нетрадыцыйны падыход да ранняй дыягностыкі, вынікаў лячэння захворвання. Звычайна, займаючыся гэтым, урач апіраецца на ўласны вопыт, кваліфікацыю, паўнату медыцынскай інфармацыі. Аднак такія рэчы вельмі суб'ектыўныя. Вучоныя ж вырашылі пытанне з дапамогай вылічальных сістэм і ЭВМ, якія ўжо ўкаранёны ў шэрагу неўралагічных стацыянараў Беларусі і Украіны. Электронныя прагнастычныя сістэмы дапамагаюць своечасова прадбачыць магчымасць узнікнення захворвання, яго ход, а значыць і найбольш эфектыўныя лячэбныя і прафілактычныя мерапрыемствы.

Новае навуковае слова ў неўралогіі, сказанае беларускімі медыкамі, — вынік калектыўнай працы. У студзені гэтага года на пасяджэнні вучонага савета навукова-даследчага інстытута неўралогіі, нейрахірургіі і фізіятэрапіі адбылося тайнае галасаванне, з дапамогай якога высветліўся склад аўтарскага калектыву суіскальнікаў Дзяржаўнай прэміі. Кожны член яго мае асобныя навуковыя заслугі ў распрацоўцы важнай тэмы. І такім чынам пад кіраўніцтвам акадэміка Антонава цыкл работ прадстаўляюць людзі, чый прафесійны талент узбагачаўся і раскрываўся гадамі.

Прафесар кафедры нервовых хвароб і нейрахірургіі Мінскага медыцынскага інстытута Б.У.Дрывоцінаў. Ён доўгі час быў старшынёй Усесаюзнай камісіі па праблемах захворванняў перыферычнай нервовай сістэмы. Сам падрыхтаваў кандыдатаў навук, якія пад яго кіраўніцтвам часткова выконвалі раздзел работы, прадстаўленай на Дзяржаўную прэмію.

Доктар медыцынскіх навук Г.К.Недзведзь. Зараз ён узначальвае ў інстытуце спецыялізаванае аддзяленне захворванняў перыферычнай нервовай сістэмы. Сваю дысертацыю абараняў па тэме "Нейрагенетыка". У калектыўнай рабоце аўтарскага калектыву Г.К.Недзведзь распрацаваў праблемы клініка-генетычных аспектаў астэахандрозу, іх спадчыннасці.

Доктар медыцынскіх навук В.Я.Латышава займаецца клініка-імуналагічнымі праблемамі захворвання. Гэты аспект вельмі важны для разумення механізму развіцця астэахандрозаў, яго неўралагічных праяў.

Кандыдат навук, кіраўнік паталага-анатамічнай групы інстытута С.Д.Бяззубік. Ён шмат зрабіў для вывучэння патагенезу (развіцця) захворвання з пазіцый патамарфалагічных, гістахімічных даследаванняў.

Прафесар, доктар медыцынскіх навук, кіраўнік клінікі нейрахірургіі А.Ф.Смяновіч — аўтар новых методык для дыягностыкі і аперыравання астэахандрозаў пазваночніка. На цяперашні час дзякуючы ім у клініцы паспяхова праапераравана каля 3 тысяч дыскагенных радыкулітаў.

У камітэт па Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь у галіне навукі і тэхнікі былі пададзены 24 заяўкі на ўдзел у суіскальніцтве. Пасля абмеркавання гэтых работ у падкамісіі, камісіі, камітэце, да далейшага конкурснага ўдзелу на атрыманне Дзяржаўнай прэміі рэспублікі было дапушчана 14 работ. Сярод іх — і тая, пра якую мы вядзём размову. Пакуль яшчэ невядома, ці стане аўтарскі калектыў беларускіх медыкаў, што займаюцца праблемамі неўралогіі, лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі, аднак ужо цяпер інстытут атрымаў дзесяць аўтарытэтных водгукаў на працу суіскальнікаў.

Рэцэнзенты аднназначна сыходзяцца на думцы, што цыкл работ аўтарскага калектыву, прадстаўлены на Дзяржаўную прэмію, — бясспрэчна новае слова ў навуцы, вынікі даследаванняў ўяўляюць сабой вялікі ўклад у развіццё неўралогіі. Сярод тых, хто ставіў свае подпісы пад водгукамі на гэтую навуковую працу, вядучыя вучоныя ў галіне нейрахірургіі, неўралогіі не толькі з Беларусі, але і з былога Саюза. У прыватнасці, работу высока ацанілі дырэктар НДІ неўралогіі Расійскай акадэміі медыцынскіх навук (РАМН), двойчы лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР М.В.Верашчагін; дырэктар НДІ нейрахірургіі РАМН, акадэмік, лаўрэат Дзяржпрэміі СССР А.Н.Канавалаў; самы галоўны неўрапатолаг Санкт-Пецярбурга, прафесар, акадэмік А.А.Скарамец; лаўрэат Дзяржпрэміі Украіны, прафесар, акадэмік Е.Л.Мачарэт; дырэктар Украінскага НДІ клінічнай і эксперыментальнай неўралогіі, праўадзейны член Акадэміі медыцыны і псіхіятрыі ЗША, прафесар П.В.Валошына; акадэмік Акадэміі навук Малдовы, акадэмік АН Нью-Йорка, заслужаны дзеяч навукі Малдовы, прафесар Д.Г.Герман.

Канчатковае рашэнне, зразумела, прыме камітэт па Дзяржаўных прэміях Беларусі ў галіне навукі і тэхнікі. Мы ж сёння зычым аўтарскаму калектыву медыкаў перамогі на гэтым шляху.



**Фота Сяргея БРУШКО.**



### ДЗЕ ВЫ, ПРАДПРЫМАЛЬНЫЯ ЛЮДЗІ?

**Зямля беларуская захоўвае шмат помнікаў архітэктуры мінулага. Шмат іх і на Гродзеншчыне. Праўда, калісьці шыкоўныя княжацкія палацы, гасцінныя двары, графскія маёнткі, культавыя збудаванні сёння толькі сваімі велічнымі знешнімі контурамі напамінаюць пра былую раскошу. І хоць зараз распачата праца па рэстаўрацыі былых святынь, вядзецца яна марудна.**

**Адно з такіх закінутых збудаванняў — старадаўняе памесце графа Храптовіча — размешчана на тэрыторыі калгаса "Звязда" Навагрудскага раёна. А калі яго аднавіць, можна размясціць тут рэдкую па прыгажосці базу адпачынку, напрыклад, для работнікаў мастацтва або журналістаў. У калгасе няма сродкаў на такую рэстаўрацыю. А вось камерцыйныя структуры маглі б рызыкнуць укласці грошы ў добрую справу. Акупіцца яна ў сто разоў, бо размешчана памесце ў маляўнічым месцы, недалёка ад Нёмана, на адлегласці сто кіламетраў ад сталіцы, да якой вядзе добрая шаша. А можна ператварыць былое памесце ў камфартабельны гасцінны двор. Месцы ж і збудаванні тут усё яшчэ прыгожыя.**

**Фота Эдуарда Кабяка, БЕЛІНФАРМ.**



*Калі ў вёсцы Крытышын, што ў Іванаўскім раёне, бачаць Мікалая Мікалаевіча Дэдзюка ў акружэнні дзетвары, гэтаму ніхто не здзіўляецца. Настаўнік гісторыі мясцовай школы сустракаецца з вучнямі не толькі на ўроках. Ён ведае па імёнах усіх дзяцей у акрузе. Нястомны краязнаўца, Мікалай Мікалаевіч захапіў пошукам і даследчай працай і сваіх вучняў. Гурток, які ён узначальвае ў Крытышынскай школе, па праву можна лічыць лепшым у вобласці, а на рэспубліканскай алімпіядзе па краязнаўству каманда гэтай сельскай школы заняла першае месца. Некаторыя адкрыцці і знаходкі юных краязнаўцаў з Крытышына зацікавілі гісторыкаў рэспублікі. А для настаўніка — гэта і радасць, і гонар.*

**На здымку: Мікалай Мікалаевіч Дэдзюк з дзецьмі вёскі Крытышын. Фота Эдуарда КАБЯКА.**

ПЕСІМІСТЫЧНЫ ЭЦЮД

## Напярэдадні новай зімы

□ **Ірына ЗАВАДСКАЯ, "ЧЗ"**

***Дзе-ніздзе яшчэ можна ўбачыць рэшткі той афішы: бы вялізны жоўты ліст, матляецца яна на гарадскіх "дрэвах" — афішных тумбах і слупах, — калі восеньскі вецер імкнецца далучыць яе да нешматлікіх пакуль самалёцікаў апалага лісця. Апошнія дні летняга надвор'я ўжо нікога не падмануць — набліжаецца восень і цягне ёй адной уласцівыя ўспаміны і звычайны для гэтае пары разважлівы настрой...***

Жоўтая з чорным афіша ўсё яшчэ паведамляе пра выставу маладых беларускіх графікаў, што трапіла на самую сярэдзіну лета ў мастацкім цэнтры "Жыльбел". Абнесены будаўнічым плотам дамок Траецкага прадмесця выглядаў даволі нечакана сярод бездакорнай архітэктуры старога горада. Гэткай жа "нечаканай" была і выстава — зусім не падобная на традыцыйную дзейнасць знакамітых творцаў беларускага мастацтва. Колькі гадоў таму пошукі гэтых сямі графікаў хутчэй за ўсё палічылі б эстэтычнай правакацыяй, аплявухай грамадскаму густу — але зараз, дзякуй Богу, ужо ніхто не сумняваецца, што няма нічога больш несумяшчальнага з мастацтвам, чым строга вызначаныя нарматывы. Жыццё рухаецца па спіралі — і мастацкая Беларусь быццам вярнулася ў свае 30-я гады, у часы Шагала і Кандзінскага, калі практычна любым чынам можна было адлюстроўваць свае пачуцці.

Сем — лічба магічная, лічба ўдачы і адзінства. Васіль Баранаў, Яўгенія Ліс, Канстанцін Селіханаў, Таццяна Радзівілка, Алеся Каплунова, Павел Іонаў і Алена Нядзелька з'яднаныя не толькі адной творчай майстэрняй, але й аднолькавым прынцыпам творчасці, што зыходзіць з пошуку новых формаў і вобразаў, не ўласцівых традыцыйнай беларускай графіцы; імкнуцца ўздзейнічаць на глядацкую падсвядомасць, разбураючы прывычны стэрэатып светаўспрымання. Але як кожная лічба мае сваё, адметнае значэнне, так і мастакі не падобныя адзін да аднаго, кожны стварае ўласны свет, надаючы творам энергію ўласных пачуццяў і робячы надзвычай жывое мастацтва.

— Тое, што я малюю, звычайна фіксацыя двух—трох тыдняў жыцця: надвор'я, маіх адносін з дзяўчынай, тут і кветкі на акенцы, і нават вось гэты пацук, — размаўляючы са мною, Павел Іонаў адначасова забівае цвікі ў вялізную скрыню-бандэроль, змайстраваную ім для графічных работ Алесі Каплуновай і ўласных, што на працягу кастрычніка—снежня будуць выстаўляцца ў Германіі. Час ад часу ў самых розных месцах аб'яўляецца прыручаны пацук, азіраючы пакой з выглядам сапраўднага гаспадара. — Наогул жа, я не люблю сваіх работ — дык і ніхто не абсмоктвае ўражанні бясконца. Гэта — як навала: прыйдзе нейкая думка — раблю эскіз. Але калі ён паляжыць дзень—два, пачынаю адносіцца да ліста паперы, як да работы, а так нельга. Тут, як на "Супер-8" — сеў і паехаў, адразу і да канца... Ёсць яшчэ іншая небяспека: першыя штрыхі — гэта заўсёды прыгожа, і непрыкметна для сябе пачынаеш іх удасканальваць, рабіць яшчэ прыгажэйшымі — і малюеш так, як патрабуе ліст, а не тое, што ў галаве... Мастацтва, калі ім сур'ёзна займацца, зацягвае вельмі моцна. Таму і мастак павінен быць надзвычай моцным чалавекам, весці здаровы спосаб жыцця. Праз багему, напэўна, кожнаму трэба прайсці, але важна своечасова выйсці з яе. Бо гэта таксама зацягвае, як балота. Я вось ведаю вельмі таленавітых піцерскіх хлопцаў, што страцілі сябе ў тусоўцы...

Гэтыя сямёра — асобы даволі моцныя. Яўгенія і Васіль, што маюць даволі працяглы творчы стаж, — Васіль нават вытрымаў своеасаблівае "выпрабаванне Захадам"; зусім юныя Павел і Алеся; Кастусь і Таццяна, у якіх зусім нядаўна нарадзілася малое; студэнтка Алена — моцныя ўжо таму, што рызыкуюць займацца мастацтвам у сітуацыі, калі, акрамя свабоды, няма ні належных умоў, ні належнага разумення. Нават Мастацкая акадэмія хутчэй не спрыяе развіццю таленту, а замінае яму. Павел і Алеся не паспелі закончыць нават першы курс, хоць напачатку ўсё складвалася проста найлепшым чынам. Васіль Баранаў, які выкладаў на іхнім курсе, быў сапраўдным "сцягам" для сваіх студэнтаў, і яны рабілі такое, што старшакурснікі не адважваліся паверыць: няўжо гэта дазволена?! І мелі рацыю — у рэшце рэшт, некалькі студэнтаў і выкладчык пакінулі сцены ўстановы, якая адмовілася іх разумець.

— Акадэмія здольная падрыхтаваць цудоўнага рамесніка, бездакорнага прафесіянала, які будзе з поспехам канкурыраваць з тымі, хто выстаўляецца на праспекце Скарыны, — разважае Кастусь Селіханаў. — Вядома, нікому не пашкодзіць прайсці шлях вучнёўства. Але сам працэс навучання... У акадэміі ўсё безумоўна правільна, але неяк нудна — няма жыццёвай сілы, адчуваеш, што людзі стамляюцца. Няма дыялога на роўных, гэта — як рухавік ухаластую. Узнікае абыякавасць з абодвух бакоў, нават разгубленасць...

Ды й наогул, як лічыць Павел, "у Беларусі выстаўляцца — што цаглінамі ў пустыні гандляваць", бо попыт на сапраўднае мастацтва вельмі нізкі. Калі ў "новых беларусаў", адпаведна "новым рускім", з'яўляюцца грошы, мастацтвам яны пачынаюць цікавіцца ледзь ці не ў дзесятую чаргу. Што, зрэшты, натуральна, — кожнаму хочацца спачатку нацешыцца ўласнымі машынамі... А калі ўжо звяртаюць увагу на нейкі там жывапіс (урэшце, гэта таксама прадмет раскошы і проста модна), звычайныя густы — на ўзроўні Скарынаўскага праспекта... Таму і гібее паціху майстэрня Малаткова, якой карыстаюцца гэтыя і многія іншыя нацыянальныя графікі, — "Эксперыментальная творчая майстэрня Саюза мастакоў" вышэйшага еўрапейскага ўзроўню, дзе працуе сапраўдны Маэстра, роўнага якому няма ва ўсім былым Саюзе. Прыбытку яна не прыносіць, а слава... Вядома, што славу ў кішэню не пакладзеш. Таму й фінансаванне не атрымлівае амаль ніякага: нават неабходныя матэрыялы прыходзіцца рыхтаваць ледзь ці не прадзедаўскім метадам. Атрымліваецца парадокс — беларускі эстамп больш вядомы за мяжою, чым у нас. Ізноў няма прароку ў сваёй айчыне... Спадару Малаткову засталіся два гады да пенсіі, і што потым? Няўжо мы страцім і гэтае старажытнае мастацтва, калі і без таго ўжо страцілі столькі, што цяжка падлічыць?

...Восень няўмольна цягне за сабою зіму.

### САМІМ БУДАВАЦЬ ТАННЕЙ

***З цягам часу, пераканаўшыся ў гэтым, кіраўніцтва Лельчыцкага райспажыўсаюза пайшло на стварэнне ўласнага будаўнічага ўчастка.***

Толькі за апошнія гады калектыў узвёў дыхтоўныя магазіны ў некалькіх вёсках, цэх безалкагольных напіткаў, універсам, хлебны магазін, піўбар і камбінат грамадскага харчавання ў райцэнтры. Яшчэ ў трох дзесятках гандлёвых кропак праведзены капрамонт і рэканструкцыя. Нядаўна завершаны мантаж абсталявання ў цэху па выпуску сасісак, а цяпер рыхтуюцца да прыёму магазіны ў вёсцы Астражанка і гарпасёлку, узводзяцца каўбасны цэх і халадзільнік-агароднінасховішча.

### ТУРАЎСКІЯ СУСТРЭЧЫ

***Нядаўна сталіцу былога славутага славянскага княства наведала нямецкая дэлегацыя. Госці пабывалі ў сем'ях, дзеці якіх адпачывалі ў апошні час у Германіі. Пазнаёміліся з гісторыяй гэтага палескага краю, наведалі мясцовы краязнаўчы музей і Замкавую гару.***

Пад час развітальнай вечарыны нямецкім сябрам свае здольнасці прадэманстравалі самадзейныя артысты народных ансамбляў "Ярок" і "Прыпяць". Госці былі проста ў захапленні ад прафесійнага майстэрства тураўскіх спевакоў і танцораў і запрасілі іх да сябе.

**Алесь ЛАРЫЁНАЎ.**

### ДАПАМОГА ПРЫХОДЗІЦЬ ДАДОМУ

***Пажылыя людзі ў Бешанковіцкім раёне не засталіся адрынутымі грамадствам. Тут створана аддзяленне сацыяльнай дапамогі дома, на абслугоўванні якога знаходзіцца***




***дзвесце трыццаць пяць чалавек. Ёсць дванаццаць штатных работнікаў, якія могуць даставіць прадукты, прыбраць у кватэры, пасадзейнічаць у атрыманні медыцынскай дапамогі, у афармленні заказаў на дастаўку паліва, на аплату камунальных паслуг.***

Цікава, што на вёсцы тут распаўсюджваецца такая форма абслугоўвання састарэлых і адзінокіх, як суседская дапамога, якой па дагаворах ахоплены дзевяноста дзевяць чалавек. Адно крыўдна, што нават суседзі пачалі дапамагаць адзін аднаму згодна з заключанымі дагаворамі. Што з намі, людзі?!

### КАМАР НОСА НЕ ПАДАТКНЕ

***У Докшыцкім раёне адмыслова наладжана служба "Ахова", за якой замацавана тэрыторыя гандлю, банкаў, аграпрамзабеспячэння, санаторыя-прафілакторыя "Баравое". За апошнія паўгода на гэтых аб'ектах не адбылося ніводнага крадзяжу.***

Зараз аб'яднанне "Ахова" мае ў сваім распараджэнні электронныя тэхнічныя сродкі, яму выдзелены аўтатранспарт, зброя, газавыя балончыкі, спецыяльныя касцюмы, наручнікі, гумавыя палкі. Ёсць у "Аховы" і яшчэ адзін памочнік — сабака Дзік.

**Уладзімір МІХНО.**

### АХВЯРЫ "ГРЫБНОЙ ЛІХАМАНКІ"

***Штогод пасля заканчэння грыбнога сезона медыкі падводзяць сумную статыстыку атручвання грыбамі. Штогод папярэджваюць грыбнікоў аб неабходнасці праяўляць асцярожнасць, напаўняючы кошык. І штогод, на жаль, не абыходзіцца без ахвяр.***

13 чалавек з дыягназам "атручванне грыбамі" змешчана апошнімі днямі ў рэанімацыйнае аддзяленне Гродзенскай абласной бальніцы. Жыццё траіх — маладой маці з двухгадовым дзіцем з Гродзенскага раёна і ваеннаслужачага з г.п.Рось — выратаваць не ўдалося. Як сведчаць урачы, асноўнай прычынай атручванняў з'яўляецца белая паганка — смертаносны грыб, які знешне мала адрозніваецца ад сыраежкі.

**Лілія АСТРАВЕЦКАЯ.**

